# Ніва




БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 43 (713) 26 кастрычніка 1969 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

### ТЭЛЕВІЗІЙНАЯ ПЕРАДАЧА АБ БЕЛАРУСАХ

2 лістапада 1969 года ў другой палавіне дня будзе перадача аб беларусах Беласточчыны, у тым ліку і аб дзейнасці БГКТ. Незабудзьце ўключыць тэлевізары. Загаловак перадачы: «Там, дзе танцуюць «Лявоніху». Дакладную гадзіну пададуць тэлевізійныя праграмы.

### У ВАРШАЎСКІМ АДДЗЕЛЕ

9 кастрычніка адбылося пасяджэнне праўлення аддзела з удзелам старшыні і сакратара ГП Міхася Хмялеўскага і Янкі Зенюка. Праўленне абмеркавала кадравыя справы аддзела, магчымасці арганізавання мастацкага калектыву, клубную працу і дзейнасць сярод студэнцкай моладзі. Праўленне зацвердзіла таксама план працы да канца гэтага года. З больш цікавых спраў плана працы варта падкрэсліць наступнае: 22 лістапада аддзел арганізуе вечар прысвечаны 25 гадавіне Народнай Польшчы і 52 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Аддзел будзе яшчэ больш цесна супрацоўнічаць з беларускай філалогіяй і Таварыствам Польска-савецкай дружбы. Аддзел пастанавіў таксама яшчэ ў гэтым годзе арганізаваць тры спатканні з прадстаўнікамі ўлад Беласточчыны, якія паінфармуюць аб сельскай гаспадарцы, эканамічных і культурных справах і аб магчымасцях атрымання працы на Беласточчыне будучым выпускнікам вышэйшых устаноў Варшавы.

Старшыня аддзела Юры Бусловіч пазнаёміў таксама прысутных з планам працы Галоўнага праўлення. Удзельнікі пасяджэння Віктар Швед, Мікола Врублеўскі, Віталі Бароўскі, Юрка Арол, Мікола Іванчук, Лявон Кругліч, Мікалай Данілюк, Антон Жэлезняковіч і Крыстына Новак забіраючы голас уносілі свае заўвагі і прапановы накіраваныя на паляпшэнне працы аддзела, якая развіваецца на грамадскіх пачатках, дзякуючы заангажаванасці і поўнай адказнасці ўсіх актывістаў аддзела за развіццё і лёсы Беларускага таварыства.

### ПРАЦАЎНІКІ МСВ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Працаўнікі Міністэрства унутраных спраў на чале з дырэктарам дэпартамента Зыгмунтам Арлоўскім і сакратаром КЗ партыйнай арганізацыі Веславам Тамаляй з нагоды 25 гадавіны міліцыі і СБ наведалі Боцькі (Бельскі павет) з мэтай ушанавання памяці загінуўшых міліцыянераў з рук бандытаў рэакцыйнага падполля. Ля помніка паклалі яны вянок. Вянок паклалі таксама члены Прэзідыума ГП. (Аб гэтым чытайце ў наступным нумары «Нівы» фотарэпартаж). У Гайнаўцы ў Доме настаўніка адбылося спатканне працаўнікоў МСВ з прадстаўнікамі павятовых улад і прадстаўнікамі аддзела БГКТ. Тут жа для гасцей дала канцэрт эстрада ГП «Лявоніха». У Белавежы працаўнікі МСВ наведалі музей БГКТ і там дырэктар дэпартамента Зыгмунт Арлоўскі ад імя наведвальнікаў упісаўся ў памятную кнігу музея. Пасля госці з Міністэрства пабывалі ў прыродазнаўчым пушчанскім музеі і нацыянальным парку. Увесь час, між іншым, суправаджалі іх старшыня і сакратар ГП Міхась Хмялеўскі і Янка Зенюк.

### ЛЕКЦЫЯ АЛЯКСАНДРА БАРШЧЭЎСКАГА

8-га кастрычніка для ўдзельнікаў Паўшэхнага ўніверсітэта, які існуе пры гарадскім аддзеле БГКТ, доктар філалагічных навук Аляксандр Баршчэўскі даў лекцыю пад загалоўкам: «Перыяд Кіеўскай Русі». (мх)






**Спатканне вока ў вока з зубрам не належыць да рэдкасцей, але што ў такім выпадку рабіць? Сам не ведаю. Гэты на шчасце сам адышоў.**

Белавежская пушча не з'яўляецца тэрытарыяльна найбольшым лясным комплексам на свеце, а нават і ў краіне. Ёсць значна большыя з багатым станам лесу адносна парод, густаты і веку, шчодрыя ў лясное руно і дзічыну, аднак Белавежская пушча з'яўляецца вядомай на ўсім свеце — мае славу. З'яўляецца пунктам зацікаўлення не толькі людзей, звязаных працай з лесам, прыродазнаўцаў і навуковых работнікаў усялякіх спецыяльнасцей, але звычайных, простых людзей, якія кахаюць лес.

Гаворачы з выпадковымі людзьмі, якія прыбываюць у Белавежу з усяго свету, чуў я толькі захапленні. Былі і такія, якія выказвалі ёй сваё каханне. Адзін аўстрыец сказаў мне: «Да наведання Белавежскай пушчы нагаварыў мяне сябар, які ведае яе вельмі добра. Мы разам прыехалі, і я пакахаў яе з першага погляду».

Чым тады яна так прыцягвае? Што з'яўляецца прычынай такой вялікай славы?

Ад праваднікa, які вадзіў па запаведніку прыроды Белавежскага нацыянальнага парка, даведваемся, што Белавежская пушча складаецца з трох лясных комплексаў: уласцівай Белавежскай пушчы, Свіслоцкай пушчы і Лядскай пушчы. Плошча пушчы мае агулам 1250 км², з таго ў Польшчы 580 км². Дзякуючы настойлівым намаганням польскага грамадства, а перш за ўсё леснікоў і прыродазнаўцаў з прафесарам Уладзіславам Шаферэм на чале, у 1921 годзе вынесена было рашэнне ўтварэння запаведніка прыроды першапачаткова абшарам у 452 гектары. У 1929 годзе датагачасны запаведнік прыроды пераўтворана ў Нацыянальны парк. Годным падкрэслення з'яўляецца той факт, што толькі ўлады Народнай Польшчы ў 1947 г. надалі гэтай назве юрыдычны характар адпаведным распараджэннем Рады Міністраў.

Белавежская пушча — гэта адзіны лясны аб'ект з цудоўным і вельмі каштоўным першабытным станам лесу, створаным толькі прыродай, без удзелу чалавека. Для акрэслення, чым з'яўляецца першабытны лес, найлепш паслужаць словы прафесара Карпінскага: «У першабытных лясах усе складовыя элементы былі з сабою так сыграныя, што жывучы ў іх пастаянна дабраны комплекс ворагаў, натуральных шкоднікаў (раслінныя і звярыныя паразіты, драпежнікі з ліку звярынага свету, насякомаедныя пазваночныя), а таксама збор іншых фактараў агранічваючых развіццё паразітаў, напр. спецыфічныя ўмовы пушчанскага мікраклімату, супрацьдзейнічалі іх празмернаму размножванню і экспансіі. Падобны стан захаваўся і цяпер у Белавежскай пуш-

Працяг на стар. 4



Чароўнасць пушчы незабыўная.

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ НА ДУБРОЎШЧЫНЕ

Калі добра развіваецца жывёлагадоўля, тады багатая вёска, багатая і дзяржава ў мяса. Але каб жывёлагадоўля добра развівалася, неабходна паша, корм. Ад гэтага перш за ўсё залежыць павелічэнне пагалоўя і адкорм жывёлы. Асноўнай і найтаннейшай крыніцай пашы ў нашых умовах з'яўляюцца лугі, пашы і сенажаці, а таксама паплёны.

А як гэта справа выглядае ў Дуброўскім павеце? На Дуброўшчыне пашавая плошча займае ў суме 18 404 гектары. У пераліку на адну карову ў павеце прыпадае ў сярэднім 0,67 га пашавай плошчы. (Сярэдняя ваяводская 0,6 га).

Найбольш пашавай плошчы на адну карову прыпадае ў грамадзе Рыгалоўка, бо 1,23 га, і ў самай Дуброве Беластоцкай, бо 0,98 га. У грамадзе Сухаволя прыпадае пашы на адну карову 0,53 га, а ў Сухадаліне — 0,45 га. Як бачым не ўсюды аднолькава, не ўсюды з аднолькавымі поспехамі можна павялічваць буйную рагатую жывёлу. Але там, дзе сяляне больш заангажаваны ў інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі, дзе больш выкарыстоўваюць мінеральныя ўгнаенні, дзе больш рацыянальна пасуць каровы на лугах і пашах, дзе больш сеюць паплёнаў, там вынікі маюць даволі высокія, нягледзячы на тое, што пашавая плошча не надта вялікая.

Вось, напрыклад, успомненая грамада Рыгалоўка мае пашавай плошчы на адну карову 1,23 га. На 100 га зямельных угоддзяў прыпадае там 43,3 штукі быдла. А ў грамадзе Неросна налічваецца пашавай плошчы 0,58 га, а быдла на 100 га зямельных угоддзяў — 52 штукі. Аграмадная розніца, праўда? Гэтыя факты сведчаць аб тым, што ў Рыгалоўцы далёка не выкарыстаны існуючыя там рэзервы павелічэння жывёлагадоўлі, што там сяляне належна не дружаць з сучаснай агратэхнікай, што не выкарыстоўваюць сельскагаспадарчых ведаў. Ёсць мясцовасці на Дуброўшчыне, якія маюць на 100 га зямельных угоддзяў менш як 40 штук быдла. Сярэдняя павятовая — 41,9 штук быдла на 100 га. А калі ўспомніць, што сярэдняя ваяводская складае лік 46,4 штук быдла на 100 га, дык трэба сказаць, што Дуброўшчына значна адстае. А ўмовы мае нядрэнныя для развіцця жывёлагадоўлі. Адставанне гэтае ў вялікай меры залежыць ад нізкай яшчэ там сельскагаспадарчай культуры. Там яшчэ заквашванне зялёнай масы спатыкаецца з неахвотаю сялян. Там яшчэ не сіласуюць травы з меліяраваных лугоў з трэцяга пакосу, які знімаецца позняй восенню. Замала ў павеце садзіцца пашавай морквы, брушкі, буракоў, замала робіцца сялянамі ўсевак канюшыны і сырадэлі.

У Дуброўскім павеце пабудавана 1381 сіласную яму, але толькі ў 123 заквашваецца пашу. Дзяржава прызнае сялянам цэмент на пабудову сіласных ям, аднак поўнасцю ён не выкарыстоўваецца, або выкарыстоўваецца на што іншае. Згодна з планам павятовых сельскагаспадарчых улад, у гэтым годзе павінна быць пабудаваных 300 сіласных ям. Але да гэтай пары пабудавана толькі 74. 36 гаспадароў гавораць, што да канца года яшчэ пабудуюць, але гэта справа няпэўная. Зрэшты, навошта будаваць, калі не рабіць у іх сіласу. Іншай праблемай з'яўляецца рацыянальнае выкарыстанне траў, вясковых выганаў і іншых паш. Маецца тут на ўвазе загонны выпас кароў. Справа ў тым, што каровы моцна нішчаць пашу вытоптваннем. І таму неабходна падзяліць яе на часткі, на загоны і па чарзе выпасваць. Праўда, на Дуброўшчыне існуе ўжо такіх 20 паш, якія даюць дасканалыя вынікі, але гэты метад неяк памалу распаўсюджваецца.

Наступнай справай, якая не малы ўплыў мае на развіццё жывёлагадоўлі, з'яўляецца і тое, што тэмпы будаўніцтва сучасных памяшканняў для жывёлы даволі павольныя. У 1968 годзе па-

(Працяг на стар. 5)

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ГРУПОВЫ ПАЛЁТ ЗАКОНЧАНЫ

Паспяхова закончыўся многасутачны групавы палёт касмічных караблёў «Саюз—6», «Саюз—7» і «Саюз—8». Сем савецкіх касманаўтаў: **Георгі Шонін, Валеры Кубасаў, Уладзіслаў Волкаў, Анатоль Філіпчанка, Віктар Гарбатко, Аляксей Елісееў і Уладзімір Шаталаў** выканалі вялікі аб'ём прац для рашэння важных практычных заданняў, неабходных для ўдасканалення тэхнікі пілаціравання касмічных караблёў і стварэння арбітральных станцый для навуковага і народнагаспадарчага прызначэння.

Экіпажы касмічных караблёў правялі сумесныя навуковыя назіранні і эксперыменты, атрымалі важны вопыт у апрацоўцы пытанняў аўтаномнай навігацыі і кіраванні некалькімі караблямі ў груповым палёце.

Распачаўся новы этап — навуковая работа ў космасе, — сказаў галоўны канструктар савецкіх касмічных караблёў. Навязваючы да эксперыменту са зваркай, галоўны канструктар заявіў: зварка ў космасе з'яўляецца многа абяцаючай. Зараз існуе погляд, што ў космасе можна будзе будаваць розныя аб'екты, манціруючы іх пры дапамозе толькі саміх аўтаматычных прылад. Аднак так не ёсць. Думаю, што такі мантаж, хаця вельмі змеханізаваны, не зможа адбыцца без «ручной работы».

### ТАЯМНІЦА ПАЖАРУ РЭЙХСТАГУ

Таямнічы пажар рэйхстагу ноччу 27 лютага 1933 года па сённяшні дзень выклікае ажыўленыя дыскусіі. Гітлераўцы выкарысталі гэты пажар для разгулу тэрору супраць камуністычнай партыі і ўсіх дэмакратычных сіл.

Як вядома, потым гітлераўцы зрабілі судовы лейпцыгскі працэс супраць Дзімітраву і Вандэрлюбэ. Па сённяшні дзень рэакцыйныя гісторыкі падтрымліваюць тэзіс аб віне камуністаў за падпаленне рэйхстагу.

Зараз у Люксембургу дзейнічае камітэт, які займаецца доследамі прычын і вынікаў II сусветнай вайны. Ганаровымі старшынямі гэтага камітэта з'яўляюцца м. інш. **Вілі Брант і Андрэ Мальро.** Гэты камітэт нядаўна апублікаваў заяву, з якой вынікае, што мае ён неабвяргальныя довады на тое, што гітлераўцы самі запланавалі і выканалі падпаленне рэйхстагу. Камітэт мае паказанні сведкаў, у тым таксама 7 сведкаў, якія давалі паказанні ўпершыню. Некалькі з іх гэта высокія гітлераўскія функцыйныя асобы, якія зараз займаюць высокія пасады ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі. Зразумела, гэтыя людзі не зацікаўленыя ў тым, каб публікаваць іх прозвішчы.

### АЎТАМАШЫНЫ Ў СССР

У 1980 годзе савецкі аўтакамбінат у г. Тальяці над Волгай будзе выпускаць каля **600 тысяч** легкавых аўтамабіляў у год, завод у Маскве — **200 тысяч,** фабрыка ў Запарожжы — **170 тысяч,** а аўтазавод у Горкі — **75 тысяч** на працягу аднаго года.

**А. К.**



## БССР

### ГУРЫНОВІЧА

Газеты апублікавалі выступленне міністра замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіча ў агульнай дыскусіі на XXIV сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацый Аб'яднаных Нацый 8 кастрычніка 1969 года. Загаловак выступлення: «Забяспечыць трывалы мір усім народам». Гурыновіч м. ін. заявіў:

«Беларуская ССР, як і іншыя сацыялістычныя краіны, лічыць сэнсам сваёй палітыкі забеспячэнне міру для свайго народа і народаў іншых краін».

Беларускі міністр аналізуе магчымасці і перспектывы ўсеагульнай бяспекі.

### ЧЭХАСЛАВАКІІ

Дэлегацыя партыйных работнікаў Камуністычнай партыі Чэхаславакіі на чале з загадчыкам аддзела сельскагаспадарчай палітыкі ЦК КПЧ Янам Гавэлкам пабывала ў Беларусі, наведала вучоных беларускіх навукова-даследчых інстытутаў земляробства і жывёлагадоўлі ў г. Жодзіна. Чэшскія госці наведалі таксама Маладзечна.

### БІТНЕР

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Саюзе ССР Хорст Бітнер нанёс візіт намесніку Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Клімаву. У гутарцы прынялі ўдзел суправаджаючыя пасла другі сакратар пасольства ГДР Х. Нойбауэр і аташэ пасольства М. Менцэр. На гутарцы былі таксама намеснік міністра замежных спраў Беларускай ССР А. Шэльдаў і начальнік пратакольна-консульскага аддзела Міністэрства замежных спраў БССР Б. Кудраўцаў.

Нямецкія госці наведалі мінскі аўтазавод, зрабілі паездку на Курган славы.

### БЕЛАРУСІ

У Фінляндыі наладжана Тыдзень культуры Беларусі. Запрошана беларускіх артыстаў, пісьменнікаў, мастакоў, дзеячаў.

### НЕПАЎНАЛЕТНІХ

Пад старшынством намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР Р. Кісялёва адбылося пасяджэнне рэспубліканскай камісіі па справах непаўналетніх. Разгледжана дзейнасць Драгічынскай і Жлобінскай раённых камісій. Разгледжана таксама работу дзіцячых пакояў міліцыі Мінскай вобласці.

### «БУДАВОКС»

У Мінску адбываецца выстаўка сродкаў сувязі венгерскага знешнегандлёвага акцыянернага таварыства «Будавокс». Выстаўку наведалі кіраўнікі партыі і ўрада БССР.

### ТЭЛЕВІЗІЙНАЙ

Пытанню тэлевізійнай тэхнікі была прысвечана рэспубліканская навукова-тэхнічная канферэнцыя, якая адбылася ў Мінску.

### «БЕЛАРУСКУЮ»...

— Захаваць «Беларускую Лаўру» — пад такім загалоўкам апублікавана артыкул аб крайняй неабходнасці захавання помнікаў беларускай старажытнай гісторыі — Куцеінскага і Пакроўскага манастыроў каля Оршы. Калісьці існавала назва іх — Беларуская Лаўра.

(С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ДНІ КУЛЬТУРЫ РСФСР

Пачынаючы ад 20 кастрычніка ва ўсёй краіне адбываюцца Дні культуры Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі. Святкаванні іх спалучана са святкаваннямі сотай гадавіны нараджэння Леніна. Святкаванья ў Польшчы Дні з'яўляюцца найбольшым замежным паказам рускай культуры арганізаваным Савецкім Саюзам. Таксама ў Польшчы ніколі дагэтуль не было такой маніфестацыі культуры братняга рускага народа.

У сувязі з Днямі прыбылі ў Польшчу шматлікія савецкія мастацкія калектывы. Прывезена 7 вялікіх выставак паказваючых дасягненні рускай культуры, прыехала 11 мастацкіх калектываў і шмат салістаў. Прыбыла таксама афіцыйная ўрадавая дэлегацыя РСФСР, а таксама дэлегацыі розных творчых аб'яднанняў. Ва ўсёй краіне ў вялікіх прадпрыемствах, у творчых асяроддзях, дамах культуры і бібліятэках адбываюцца сустрэчы з савецкімі артыстамі і членамі афіцыйных дэлегацый.

Адначасова на працягу Дзён культуры РСФСР 30 польскіх тэатраў выставіць п'есы рускіх і савецкіх аўтараў, усе оперныя тэатры выставяць рускія оперы або балеты. Падрыхтавана таксама 65 канцэртаў рускай музыкі.

Да дзён салідна падрыхтаваўся наш «Дом кніжкі». 1000 кнігарняў падрыхтавала вітрыны з рускай літаратурай, 550 кнігарняў выявіла ахвоту прыняць удзел у конкурсе на найлепшую выстаўку рускай і савецкай кніжкі. Вялікія выстаўкі кніжкі арганізавана пры дапамозе «Міжнароднай кнігі» ў музеі Леніна ў Пароніне і ў Горна-металургічнай акадэміі ў Кракаве.

Рускую тэматыку ўвялі ў свае планы працы ўсе культурна-асветныя ўстановы краіны. Тэматыка гэтая прадбачваецца, між іншым, у праграме Агульнапольскага рэцытатарскага конкурсу ў Любліне, Фестывалі аматарскіх мастацкіх турткоў у Тарнове, Мазавецкай літаратурнай восені і іншых цэнтральных і рэгіянальных мерапрыемствах. 20 кастрычніка ў Варшаве ў гмаху «Захэнты» адкрыта вялікую выстаўку «Рускае мастацтва ад XIII стагоддзя да нашых дзён». На выстаўцы знайшліся працы з найслаўнейшых савецкіх музеяў: Рускага музея ў Ленінградзе, Трэцякоўскай галерэі і Музея імя Рублёва ў Маскве.

Да адзначэння Дзён адпаведна падрыхтавалася таксама польская тэлевізія. Дасць яна багатую праграму мастацкіх спектакляў паасобных савецкіх калектываў, а таксама шэраг перадач паказваючых узаемныя сувязі ў мінулым польскай і рускай культуры. Запланавана тэлевізійныя сустрэчы са слаўнымі савецкімі мастакамі, а таксама з польскімі даследчыкамі, якія займаюцца даследваннем рускай культуры.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ДЭКАДА РУСКАЙ КУЛЬТУРЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Так як і ва ўсёй краіне з 20 па 30 кастрычніка адбываюцца на Беласточчыне шматлікія мерапрыемствы, звязаныя з Дэкадай культуры Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Дні рускай культуры ў нашым ваяводстве адкрыліся прэм'ерай спектакля рускага драматурга Леаніда Рахманава «Неспакойная старасць», якая адбылася 19 кастрычніка ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. П'есу ставіў рэжысёр Рускага драматычнага тэатра ў Гродне Аляксандр Струнін.

Рускія Дні праходзяць на Беласточчыне з удзелам рускіх артыстаў. 21 кастрычніка ў Беластоку, 22 у Гайнаўцы, 23 у Бельску і 24 у Элку захапляў нашых гледачоў сваёй цікавай праграмай савецкі Эстрадны калектыў. У яго складзе заслужаныя артысты РСФСР, лаўрэаты саюзных і міжнародных конкурсаў: М. Суворава, Г. Карава, М. Ахотнікаў, І. Суржыкаў (песні), Л. Семяняка, Л. Афанасева, М. Кавамір, А. Грыгор'еў (балет), Ю. Казакоў (акардэон), І. Дзіваў і Н. Сцяпанава (лялечныя пародыі) і У. Міхайлаў (ілюзіяніст).

Таксама 21 кастрычніка ў зале Ваяводскай і гарадской бібліятэкі ў Беластоку выступіла з вакальным рэчыталем салістка Ленінградскага тэатра оперы і балета імя Кірава Рыма Волкава. А славуты Ленінградскі тэатр мініяцюр Аркадзія Райкіна будзем мець магчымасць апладзіраваць 27 і 28 кастрычніка, калі ён выступіць у беластоцкім тэатры.

У часе Дэкады рускай культуры разам з гэтымі цэнтральнымі адбываецца шмат мерапрыемстваў, можна сказаць, мясцовага значэння, якія ладзяць мясцовыя культурныя ўстановы і арганізацыі. Напрыклад, Дзяржаўны сімфанічны аркестр у Беластоку дасць два камерныя канцэрты, прысвечаныя рускай музыцы, а бібліятэкі наладзяць выстаўкі савецкіх кніжак.

На тэму культуры РСФСР адбываюцца ў ваяводстве шматлікія лекцыі, конкурсы і г.д.

Шырокім фронтам з прапагаваннем культуры РСФСР ідзе беластоцкае кіно, якое арганізавала Агляд кінакарцін РСФСР. Гэтыя карціны будуць дэманстравацца ў 671 мясцовасці ваяводства. Урачыстае адкрыццё Агляду адбылося 21 кастрычніка ў Беластоку прэм'ерай дзвюхсерыйнага фільма «Браты Карамазавы». Апрача гэтай у Днях пабачым такія кінакарціны як «Вірынея», «Вайна і мір» (IV частка), «Мёртвы сезон» і «Брыльянтава рука».

Дні рускай культуры на Беласточчыне закончацца 3 лістапада ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ўрачыстым канцэртам заслужанага беластоцкага калектыву мастацкай самадзейнасці «Курпе Зялёнэ».

Усе мерапрыемствы, якія адбываюцца ў ваяводстве ў Днях, яшчэ больш пашыраць нашы веды аб багатай рускай культуры, яшчэ больш умацуюць нашы сувязі і непарушную дружбу з брацкім рускім народам.

(юв)




**Niedziela, 26.X.**

8.25 Program dnia. 8.30 TV Kurs Rolniczy: ,,Wprowadzenie badań naukowych do produkcji w gospodarstwach rolnych". 9.05 ,,Przypominamy, radzimy". 9.15 ,,Jałta" — film. 9.30 ,,Poszukiwany gruppenführer Wolf" — film TVP (,,Stawka większa niż życie"). 10.25 ,,Piosenka dla Ciebie". 11.15 ,,Kronika 50-lecia Kraju Rad". 11.45 Dziennik. 12.00 ,,PROM". 12.40 ,,W starym kinie". 13.35 Jubileusz Państwowej Wyższej Szkoły Muzycznej w Katowicach. 14.05 ,,Przemiany". 14.35 Teatrzyk dla Przedszkolaków: A. Chodorowska — ,,Kajtek wracaj!". 15.20 ,,Most na licytacji" — rep. 15.55 Turniej Wiedzy Politycznej studenckich kół ZMS-ZMW. 16.55 Sprawozdanie z II połowy meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I Ligi Zagłębie (Sosnowiec) — Stal (Rzeszów). 17.50 ,,Piórkiem i węglem". 18.15 PKF. 18.25 ,,Podróże z Melpomeną" (,,Przez granice i kontynenty"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 XXV-lecie ,,Życia Warszawy" — jubileusz. 21.00 ,,Miłosne kłopoty" — film fab. radz. 22.10 Magazyn Sportowy oraz sprawozdanie z meczu hokejowego Polska — Finlandia.

**Poniedziałek, 27.X.**

14.25 i 22.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec". 17.35 ,,Echo stadionu". 17.50 ,,Taka jest nasza młodzież" — film dok. radz. 18.15 ,,Spacerkiem po kinach". 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr. TV: A. Arbuzow — ,,Irkucka historia". 21.30 ,,Wyjście z pałacu Schamburg" — program dok. 22.00 Dziennik.

**Wtorek, 28.X.**

8.20 ,,Operacja Trust" — film fab. radz. cz. II. 9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Sofokles ,,Król Edyp". 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — ,,O miejsce wśród ludzi" (Odwaga). 11.25 Przerwa. 12.00 ,,Wybieramy zawód". 12.25 ,,Nowoczesność w domu i zagrodzie". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: Higiena pomieszczeń inwentarskich. 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.35 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 ,,Roślinność alpejska na Uralu" — film radz. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.50 ,,Ludzie z kraju 240 milionów". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Operacja Trust" — film fab. radz. cz. II. 21.35 ,,Kontrasty". 22.15 Dziennik.

**Sroda, 29.X.**

10.00 ,,Chleb i róże" — film fab. radz. 11.25 Przerwa. 14.25 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: ,,Opowieść diabelska" — pierwszy wieczór baśni. 17.25 Magazyn ,,Nie tylko dla pań"; 17.45 ,,Energetyczne dylematy". 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.25 ,,Wyprawy" — film. 18.50 ,,Za kierownicą". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Prometeusz" — inscenizacja baletowa. 20.50 ,,Światowid". 21.20 PKF. 21.30 Studio 63: C. K. Norwid — ,,Szkice do portretu". 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 30.X.**

8.15 ,,Matematyka w szkole": Miara Jordana i pole w ujęciu elementarnym" cz. II. 8.45 Przerwa. 14.25 i 23.10 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem". 17.50 Rep. film. 18.05 ,,Tryptyk sądecki" — film pol. 18.20 ,,Refleksje". 18.50 Dobranoc. 19.00 Koncert z okazji zakończenia Dni Kultury RSFRR w Polsce, (transmisja z Sali Teatru Wielkiego w Warszawie). W przerwie ok. 19.55 Dziennik. Po transmisji koncertu ok. 21.20 ,,Operacja Trust" — film fab. radz. cz. III. 22.45 Dziennik.

**Piątek, 31.X.**

10.00 ,,Operacja Trust" — film fab. radz. cz. III. 11.25 Przerwa. 14.25 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Aula" — sesja trzecia. 17.30 ,,Ekran zbiera przyjaciół" — koncert z Kiszyniowa. 18.30 ,,Porównania" — program wiejski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr. TV: St. Muskat-Fleszarowa — ,,Zatoka śpiewających traw". 21.05 ,,Rozmowy o książkach". 21.20 ,,Towary i turyści". 21.50 Program filmowy. 22.10 Dziennik.

**Sobota, 1.XI.**

9.35 Program dnia. 9.40 Program tygodnia. 10.00 ,,Mikołaj Kopernik" — film pol. biogr. 10.40 ,,Sygnały nad miastem" — film fab. jug. 12.05 Dziennik. 12.20 ,,Pamięć" — film (,,W kraju naszych przyjaciół"). 12.30 Przerwa. 14.10 Program dnia. 14.15 ,,Spotkania z przyrodą". 14.40 ,,Ucieczka" — film fab. czechosł. 15.55 ,,Utracone dzieła sztuki". 16.25 ,,Gra i dyryguje Pablo Casals" — program muzyczny. 17.05 Reportaż. 17.35 ,,Pegaz". 18.10 ,,Fryderyk Chopin — Mnie tu wiatr zapędził" — film TVP. 18.40 ,,Wielcy znani i nieznani". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 ,,Widma" — kantata St. Moniuszki do II części poematu ,,Dziady" Adama Mickiewicza. 21.20 Dziennik. 21.40 Wiadomości sportowe. 21.45 Kino Interesujących Filmów: 21.45 ,,Marzenia kobiet" — film fab. szwedz.




**Piątek, 24 października**

8.00 Nowiny. 8.15 Dla uczniów 8.45 Film o Taszkiencie. 10.25 ,,Zawsze na posterunku". 14.55 Program dnia. 15.00 Nowiny. 15.15 ,,Kompozytorzy białoruscy — dzieciom". 15.45 Dla uczniów. 16.05 ,,Panorama nowin". 16.20 O pracy zakładowych stołówek Mińska, Homla i Grodna. 17.00 Film fab. 18.30 ,,Sztafeta nowin". 19.15 ,,Pieśni walki i gniewu". 19.35 Program poświęcony przodownikom kołchozu ,,Jasna polana" Oszmiańskiego rejonu Grodzieńskiego obwodu. 20.25 Program sportowy.

**Sobota, 25 października**

9.30 Przegląd międzynarodowy. 9.50 ,,Szkatułka muzyczna". 10.10 Uniwersytet TV. 11.00 ,,Nauka i postęp techniczny". 11.45 ,,Komunizm i spuścizna kulturalna". 12.30 Spektakl TV. 13.45 Almanach TV. 15.00 ,,Nowiny". 15.15 TV barwna. 16.45 ,,Włodarze bez masek". Część I. 17.30 TV film seryjny. 18.35 Nowiny. 18.45 ,,W jedności — siła komunistów". 19.15 TV barwna. 20.45 Międzynarodowy konkurs taneczny. Transmisja z Belgii. 22.00 Nowiny.

**Niedziala, 26 października**

8.00 ,,Kiosk muzyczny". 8.30 ,,Zdrowie". 9.00 Filmy animowane dla dzieci. 9.40 Dla uczniów. 10.00 Dla młodzieży. 10.30 ,,Nowe horyzonty". 11.00 B. Łaskin. ,,Czas miłości". Spektakl z Moskwy. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 ,,Godzina wiejska". 15.30 TV barwna. 16.30 ,,Twórca nieznany". 16.50 Przegląd estradowy. 18.00 TV film seryjny. 19.00 ,,Panorama nowin". 19.15 O doświadczeniach kołchozów i sowchozów rejonu Mołodeczno. 19.40 Koncert życzeń. 20.10 ,,Człowiek ziemi mojej". 20.30 Klub TV ,,Kłos".

 

# ЮБІЛЕЙ ТЭХНІКУМА

Тэхнікум сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску Падляшскім нядаўна святкаваў свой сярэбраны юбілей існавання. 25 гадавіна тэхнікума адзначалася ў радаснай атмасферы. У тэты самы дзень адбылося пераказанне ў карыстанне новага школьнага памяшкання і ў гэты ж дзень распачаўся I з'езд выпускнікоў гэтага ж тэхнікума. У час урачыстасці бацькоўскі камітэт тэхнікума ўручыў школе сцяг.

Сімвалічнага адкрыцця школы зрабіў намеснік старшыні прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай, выпускнік гэтага ж тэхнікума Уладзімір Міхалюк. У сваім выступленні гаварыў ён аб гісторыі тэхнікума, аб выхавацелях і аб выпускніках, якія зараз займаюць высокія і адказныя пасады ў нашай краіне.

Зараз бельскі тэхнікум сельскагаспадарчага рахункаводства мае 11 класаў, у гэтым 6 сучасных прадметных майстэрняў з багата абсталяванымі кабінетамі, са спартыўнай залай, прыгожай чытальняй і бібліятэкай, двума лекарскімі кабінетамі, выгаднае памяшканне для школьнай адміністрацыі. У тэхнікуме вучыцца 320 вучняў пераважна сялянскага паходжання. У інтэрнаце ёсць 200 месц для навучэнцаў тэхнікума, у якім вельмі добрыя ўмовы для вучобы і адпачынку.



Урачыстасць праходзіла на школьным пляцы.



Кароткай прамовай школьную ўрачыстасць адкрыў дырэктар тэхнікума Аляксандр Вішнеўскі.



Аркестр з воднамеліярацыйнага тэхнікума ў Беластоку іграе гімн нашай дзяржавы.



Намеснік старшыні прэзідыума ВРН Уладзімір Міхалюк перарэзвае сімвалічную істужку.

Зараз у школе і інтэрнаце працуе 19 педагогаў, а ў гэтым 15 асоб з вышэйшай адукацыяй. З мэтай набліжэння тэорыі да практыкі арганізуецца сучасная 550-гектаровая гаспадарка для тэхнікума абсталяваная ўсімі сельскагаспадарчымі машынамі і будынкамі.

На разбудову гэтага школьнага аб'екта дзяржава прызначыла 13 мільёнаў зл. Плануецца яшчэ прызначыць 33 мільёны зл на меліярацыю і на больш сучасную апрацоўку гэтай зямельнай гаспадаркі.

«Разбудова тутэйшага дыдактычна-выхаваўчага цэнтра, — гаварыў інж. Уладзімір Міхалюк, — з'яўляецца сімвалам развіцця нашай Народнай Айчыны, якая чвэрць стагоддзя назад пачала паднімацца з друзу і знішчэння».

**Тэкст М. Хмялеўскі**
**Фота Цаф — Сянько**

## ПРАГРАМА СВЯТКАВАННЯ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ 100 ГАДАВІНЫ НАРАДЖЭННЯ УЛАДЗІМІРА ЛЕНІНА

Ужо ад восені гэтага года ў розных формах працы праяўляецца адзначанне ленінскай гадавіны, якая прыпадае на вясну будучага года. У рамах святкавання гэтай гадавіны будуць праводзіцца наступныя мерапрыемствы:

Шырокая адчытовая акцыя. Праводзіць яе будуць лектары Ваяводскага і павятовых камітэтаў партыі, ТВП, ТППР, ЗМС, ФАН, у рабочых, маладзёжных, вясковых і інтэлігенцкіх асяроддзях.

Праблемныя курсы выбраных тэм па ленінізму. Год партыйнага навучання распачнецца ва ўсіх паветах і на ВУМЛЮ тэмай «Ленінізм і сучасны рэвізіянізм» альбо «Ленінская тэорыя суіснавання дзяржаў з рознымі палітычнымі сістэмамі».

Ваяводскі цэнтр партыйнай прапаганды супольна з іншымі аддзеламі Ваяводскага камітэта партыі правядзе семінары на ленінскія тэмы з партыйным і грамадскім актывам ваяводства.

Шырока будзе адлюстравана тэма гадавіны ў друку і радыё. Будуць публікавацца інтэрв'ю з удзельнікамі рэвалюцыі і людзьмі, якія ведалі Леніна.

У будучым годзе напярэдадні сотай гадавіны будуць праводзіцца шматлікія сустрэчы і сходы прысвечаныя знамянальнай гадавіне.

Аддзел Культуры Прэз. ВРН арганізуе агляд грамадскіх музычных пунктаў (атніска музычныя), якія пакажуць праграму з рэвалюцыйнай музыкай.

Ваяводскі дом культуры і Таварыства прыяцеляў мастацтва аб'яўляць конкурс мастакам-аматарам «Жыццё Леніна ў жывапісе і разьбе». Выстаўка ўзнагароджаных прац адбудзецца 20.VI. 1970 года. Патранаваць конкурсу будзе Беластоцкае таварыства культуры.

Акруговы музей арганізуе ў I квартале 1970 года аб'язную выстаўку на тэму «Жыццё і дзейнасць Леніна», а Ваяводская бібліятэка — выстаўку «Ленін — правадыр міжнароднага рабочага руху». Павятовыя бібліятэкі пакажуць падобныя выстаўкі, а таксама падрыхтуюць бібліяграфічны сервіз на тэму «Сувязі Леніна з Польшчай».

Сімфанічны аркестр і тэатр Вянгеркі падрыхтуюць супольны паэтычна-музычны спектакль, звязаны з гадавінай, а сам тэатр пастave п'есу Рахманава «Неспакойная старасць» — на рэвалюцыйную тэму.

У красавіку 1970 года ва ўсіх кіно будзе праходзіць агляд фільмаў звязаных з жыццём і дзейнасцю Леніна. Філатэлісты арганізуюць выстаўку марак па ленінскай тэматыцы.

У беластоцкіх вышэйшых навучальных установах адбудуцца папулярна-навуковыя сесіі аб жыцці і дзейнасці Леніна, у школах на выхаваўчых уроках і на ўроках грамадзянскага выхавання будзе многа расказвацца пра Леніна. Шырокія водгукі ленінская тэма знойдзе ў XI алімпіядзе ведаў пра Польшчу і сучасны свет, якую штогод праводзяць маладзёжныя арганізацыі ў асяроддзі школьнай моладзі.

У час летняй акцыі ва ўсіх лагерах адзін дзень будзе аб'яўлены «Днём Леніна». У ім адбудуцца сустрэчы з партыйнымі дзеячамі, выстаўкі і г.д.

Вясной будзем арганізаваць школьныя экскурсіі «Шляхам Леніна» ў напрамку на Паронін.

У красавіку будучага года Беластоцкае навуковае таварыства арганізуе навуковую сесію на тэму «Актуальнасць ідэі Леніна ў сучасным свеце».

Месяц красавік 1970 года — месяц нараджэння Уладзіміра Леніна — павяжацца ў святкаванні з 25 гадавінай падпісання Дагавору дружбы і супрацоўніцтва паміж ПНР і СССР. Адбудуцца акадэміі.

Ваяводская ленінская акадэмія адбудзецца 20.IV.1970 года ў тэатры імя Ал. Вянгеркі ў Беластоку.

ТЭОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ

# Аналіз мастацкага твора

Што такое літаратурны мастацкі твор, з якіх элементаў ён складаецца, чым характарызуецца?

**Літаратурны твор** — гэта разгорнутая, шматгранная і разам з тым цесная карціна жыцця, мастацкі расказ аб падзеях, учынках або пачуццях, перажываннях людзей.

Пры ўсёй разнастайнасці мастацкіх твораў у іх ёсць шмат агульнага. У кожным з іх звычайна апавядаецца пра якія-небудзь жыццёвыя з'явы, выказваюцца думкі, пачуцці, прычым не проста выказваюцца, а расказваюцца праз вобразы, паводзіны, перажыванні герояў з дапамогай розных спосабаў і прыёмаў, моўных, рытмічных сродкаў і г.д.

Усе гэтыя асаблівасці вельмі цесна звязаны паміж сабой, узаемаабумоўлены. Але іх можна **ўмоўна** (у думках, тэарэтычна) размежаваць.

Кожны мастацкі твор мае **змест** і **форму. Зместам** называецца тое, пра што расказваецца ў творы, — паказаныя ў ім жыццёвыя з'явы, аўтарскія думкі, перажыванні, пачуцці людзей; **формай** — тое, пры дапамозе чаго расказваецца змест, — унутраная структура, арганізацыя твора. Элементамі формы з'яўляюцца будова твора, ці, іначай кажучы, яго кампазіцыя, а таксама сюжэт, моўныя і рытмічныя асаблівасці.

Змест і форма ў мастацкім творы з'яўляецца ў непараўнаным адзінстве. Вядучая роля ў гэтым адзінстве належыць зместу, бо іменна ён вызначае жыццёвую сутнасць твора. Аднак форма адыгрывае вельмі важную ролю, яна жыва, наглядна, вобразна раскрывае змест, і таму павінна быць дасканалай, яркай, мастацкай.

Для характарыстыкі зместу твора карыстаюцца такімі паняццямі, як тэма і ідэя твора. (Выступае ўжо ад 5-га класа. Праграма бел. мовы стар. 34).

**Тэмай** твора наз. тая з'ява або некалькі з'яў, якія пісьменнік выбраў з жыцця і паказаў у вобразах. Выбіраючы тую ці іншую тэму, пісьменнік выяўляе сваю зацікаўленасць адпаведнымі з'явамі жыцця. Ф. Багушэвіч, Я. Купала, напрыклад, у дакастрычніцкай творчасці паказвалі цяжкую працу селяніна, яго беднасць. Савецкія пісьменнікі, якія жывуць у новых умовах паказваюць гераізм свайго народа, яго самаадданую працу, перш за ўсё таму, што ў жыцці савецкіх людзей у параўнанні з дарэвалюцыяй рэзка змяніліся адносіны да працы.

Выбар тэмы, такім чынам залежыць ад светапогляду аўтара, ад умоў жыцця, часу, у якім жыве пісьменнік.

У мастацкіх творах, асабліва вялікіх, можа быць не адна тэма, а некалькі. Асноўная тэма і пабочныя разам складаюць **тэматыку** твора.

Адны і тыя ж з'явы могуць быць па-рознаму адлюстраваны рознымі пісьменнікамі. Тэма твора цесна звязана з ідэяй. **Ідэя** — гэта галоўная думка мастацкага твора. Скажам, напрыклад, што даны пісьменнік паказвае жыццё селяніна ў дарэвалюцыйны перыяд («Мужык» Я. Коласа, V клас). Аднак гэтага недастаткова, каб мець яснае ўяўленне аб творы, таму што з такога азначэння яшчэ не відаць, якое адлюстроўвана жыццё: радаснае ці бязрадаснае жыццё, шчаслівае ці нешчаслівае, і хто з'яўляецца героем твора.

Ідэя па-рознаму выяўляецца ў мастацкіх творах. У некаторых з іх, напрыклад, байках, яна непасрэдна даецца пісьменнікам у выглядзе маралі, якую дае сам аўтар. Ідэю, непасрэдна выказаную аўтарам, можна сустрэць часта ў лірычных вершах, асабліва ў палітычнай, публіцыстычнай лірыцы. У вершы «А хто там ідзе?» (VII кл.) Я. Купала расказвае, як працоўныя Беларусі ідуць вялікай грамадой, каб заявіць аб сваіх патрабаваннях.

Аднак у большасці твораў ідэя не даецца ў такім «гатовым» выглядзе. Яна «хаваецца» ў творы, і яе трэба знайсці, вызначыць, паказаць, які сэнс маюць намаляваныя пісьменнікам вобразы і карціны. І калі вызначаецца ідэю твора, то таксама трэба захаваць эмацыянальную афарбоўку, звяртацца да слоў пісьменніка, прыводзіць радкі верша або апавядання. Ідэя — гэта вобразная, эмацыянальная думка.

Наступная тэма: характарыстыка вобразаў — персанажаў..

(А.-К)

## «НІВА» Ў КЛЮКОВІЦКАЙ СТАРОНЦЫ

Паволі але пастаянна павялічваецца лік падпісчыкаў нашага часопіса ў Клюковіцкай старонцы: у самых Клюковічах, у Вілінаве і ў іншых навакольных вёсках. Калі ў кастрычніку мінулага года было тут 102 падпісчыкі «Нівы», дык у сёлетнім кастрычніку ёсць іх 109. Падобная сітуацыя і ў мясцовым кіёску «Руху», у якім працуе Раіса Засенчук. У гэтым годзе прадаецца тут утрая больш «Нівы», чым у мінулым годзе. Мала «Нівы» выпісвае мясцовая школа.

## БЕЛАВЕЖА НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ

Белавежская грамадская рада займае першае месца ў павеце па збору грашовых складчын на пабудову школ. На другім месцы — Чаромхаўская рада, а на трэцім — Чыжоўская.

(ся)

**УВАГА ЧЫТАЧЫ, У ЯКІХ ЁСЦЬ СВАЯКІ ЦІ ЗНАЁМЫЯ ЗА ГРАНІЦАЙ!**

**У сувязі з тым, што маем шмат пытанняў, інфармуем зацікаўленыя асобы, што падпіску «Нівы» з заказам высылкі за граніцу прымае Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych «Ruch», Warszawa, ul. Wronia 23, nr konta PKO 1-6-100024.**

**Цана гадавой падпіскі 40 зл. 40 гр. Падпіска заяўлена да дня 10 дадзенага месяца B.K.W.Z. «Ruch» пачынае рэалізаваць з днём 1 наступнага месяца.**



 

 

Пачатак на стар. 1

# АДКРЫТАЯ КНІЖКА ПРЫРОДЫ

чы. Дзякуючы гэтаму Белавежскі нацыянальны парк з'яўляецца ў аб'ёме лясных і прыродазнаўчых навук вельмі каштоўным аб'ектам і адкрытаю кнігаю прыроды для вучоных і студэнцкай моладзі».

Багаты раслінны і звярыны свет, несустраканае птаства і сама прыгажосць пушчы робяць яе выключна атракцыйнай і непаўторнай. Хто хаця адзін раз сустрэўся з яе настроем і чароўнасцю, той адчувае захапленне неаднакратна на ўсё жыццё.

**Раман Сянько**
Фота аўтара



**У запаведніку прыроды, дзе забаронена якая-небудзь дзейнасць чалавека і дзе-нідзе выключна лясны біёцэноз, паваленыя дрэвы прымаюць неаднойчы страшэнную форму. На здымку бачым штосьці ў выглядзе страшыдла ў шалёным галопе.**

# ЧАМУ АДНЫ ГОРШЫЯ АД ДРУГІХ?

Мы ўжо пісалі, што галоўны націск у культуры ў наступаючым сезоне будзе паложаны на ўпарадкаванне розных спраў у гэтай галіне. Галіна культуры вялікая і ўсебаковая. Але парадак і тут патрэбен. Выдаецца нам, што адным з прыкладаў непарадку з'яўляецца існаванне ў ваяводстве рэфератаў культуры (замест поўных і самастойных аддзелаў культуры), якія прытуліліся пры аддзелах асветы Павятовых рад нарадовых. Нямнога і зрабіць яны могуць, бо не самастойныя.

Існуе дырэктыва Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку аб пераходзе рэфератаў культуры ў паветах у самастойныя аддзелы культуры. Пераход адбываецца павольі, аж надта павольі. Пастанова аб пераўтварэнні рэфератаў у аддзелы залежыць выключна ад прэзідыум Павятовай рады нарадовай данага павета. Рэфераты культуры існуюць яшчэ ў палове паветаў Беластоцкага ваяводства і гэта не найлепш сведчыць аб тых прэзідыумах, якія так доўга не адважыліся, ці не надумаліся падняць уласныя пастановы аб пераўтварэнні рэфератаў у аддзелы культуры. Сведчыць гэта і аб тым, што ў тых паветах лічаць, быццам культура з'яўляецца менш важнай або менш патрэбнай у жыцці.

А вось пералік паветаў, дзе існуюць рэфераты культуры пры аддзелах асветы: Гайнаўскі, Бельскі, Сямяціцкі, Сакольскі, Дуброўскі, Манецкі, Граеўскі, Замбpоўскі, Сейненскі, Кальненскі, Высокамазавецкі.

Не будзем падкрэсліваць, што фактычна і развіццё культуры ў гэтых паветах ідзе горш, чым, напрыклад, у Ломжынскім, Элцкім ці Аўгустоўскім.

Чаму ж у адных горш, а ў другіх лепш? (вл)

# ЦЫГАНЫ СЯРОД НАС

7 кастрычніка гэтага года адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП. Было яно прысвечана рэалізацыі пастаноў па справе пасялення, прафесіянальнай актывізацыі і грамадскай адаптацыі цыганскага насельніцтва ў Беластоцкім ваяводстве.

У Беластоцкім ваяводстве на дзень 30 чэрвеня 1969 года пражывала 91 цыганская сям'я з 569 асобамі. Усе яны прыпісаны тут на пастаяннае жыхарства, маюць пашпарты і згадзіліся перайсці на аселае жыццё.

Найбольшая колькасць цыганоў пражывае ў Элцкім павеце — 22 сям'і — 139 асоб, Сямяціцкім — 12 сем'яў — 79 асоб, Гайнаўскім — 11 сем'яў — 60 асоб.

Арганізаваная праца з цыганскім насельніцтвам пачынаецца ў нас ад 1952 года, ад пастановы Прэзідыум Урада. На Беласточчыне ў выніку рэалізацыі гэтай пастановы ліквідавана вандроўкі цыганоў. Большасць дзяцей і моладзі ходзіць у школу. Частка цыганоў працуе, хоць тут яшчэ выступае бяздзейнасць і нацягванне наіўных на варажбу, асабліва ад жанчын — цыганак.

27 цыганскіх сем'яў працуе на гаспадарках і найбольш з іх, бо аж 9 сем'яў, у Гайнаўскім павеце.

На 170 цыганскіх дзяцей, якія падлягаюць школьнай навуцы, у школу ходзіць 149. 21 дзіцё ў школу не ходзіць, і аж 12 з іх у Сямяціцкім павеце, дзе гэтая справа ідзе найгорш. Таксама пасяленне цыганоў у адным бараку ў Сямяцічах спрыяе валакіце.

Дзеці і моладзь, якая ходзіць у школу, маюць поўную апеку школьных улад. Ёсць ужо такія цыганскія дзеці, якія закончылі сярэднюю адукацыю і хочуць вучыцца вышэй. Але адсталасць цыганскай старшыны бывае яшчэ вялікая. Яна ўсімі спосабамі супраціўляецца навуцы.

Аптымістычным фактам з'яўляецца тое, што многія цыганы прывучыліся, жывуць і працуюць на месцы. У іх хатах усё часцей паяўляюцца сціральныя машыны, халадзільнікі, радыё і тэлевізары. Ёсць некалькі сем'яў, якія збудавалі ўласныя дамы. Улады прыходзяць з поўнай дапамогай такім цыганам, даюць крэдыты. Але трэба яшчэ папрацаваць, каб было лепш. Пастановы Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП у Беластоку і канцэнтруюцца на паляпшэнне цыганскай справы. А заданнем галоўным тут — цыганскія дзеці і моладзь, якія павінны вучыцца і выхоўвацца, павінны здабываць прафесію і новыя прывычкі. (вл)

# хроніка дружбы

## МОЖА ПАЧАЛОСЯ АД СУПОЛЬНАЙ ЁЛКІ?..

Марыя Кульчынская яшчэ да вайны была настаўніцай у Навакорніне. Яшчэ цяпер сябруе з тамтэйшымі людзьмі. Успамінае з хваляваннем, як чацвёра навакорнінскіх хлопцаў прынясло ёй у час акупацыі ў Гайнаўку хлеб і сто маленькіх булачак для малога дзіцяці.

У Гайнаўку Марыя Кульчынская пераехала незадоўга да вайны і тут працавала ў школе № 1. Гітлераўцы замянілі школу на жандармскія казармы. Калі Гайнаўка была вызвалена, настаўнікі і дзеці ў першую чаргу павыцягалі астаткі гітлераўскіх гранат і бомбаў, і ў сваёй школе распачалі вучобу.

Марыя Кульчынская была сведкам і саудзельнікам падзей, якія тут, у Гайнаўцы, на парозе новай эпохі, радзіліся. Тут у Гайнаўцы ў рабочым цэнтры як бы наперабой паўставалі ініцыятывы, вырастала новае аблічча зямлі, развівалася жыццё.

А час лёгкім не быў. Гайнаўка была горадам з розным насельніцтвам, з рознымі палітычнымі арыентацыямі яе жыхароў, таксама варожымі. Па лясах валачыліся банды. Але людзі з надзеяй віталі савецкіх салдат, бо яны неслі спакой і надзею лепшага будучага. Калі польскі салдат на першым мітынгу недзе на пачатку кастрычніка 1944 года гаварыў пра вызваленне і пра ўладу народа, слухалі яго людзі і мелі ў вачах слёзы. Было вядома, адчувалася, вісела гэта ў паветры, што польска-савецкія суадносіны ўжо не будуць, не могуць быць такімі, якімі былі дагэтуль, што родзіцца вось на вачах нешта новае і прыгажэйшае.

Дзейнічалі партыі ППР і ППС. Быў паклікаlны гмінны аддзел чырвонага крыжа. Туды гурнулі ўсе, якія хацелі працаваць і памагаць. Дапамога была патрэбная. Яшчэ грымеў фронт, яшчэ ішла вялікая супольная барацьба за свабоду.

Так пачалі радзіцца пачаткі новых адносін і новых поглядаў на ўласную айчыну, на СССР, на суадносіны паміж гэтымі краінамі. Ініцыятыва, якая радзіла ідэю польска-савецкай дружбы, выходзіла, кажа Марыя Кульчынская, ад ППР, хаця ніхто тады так яшчэ гэтага новага не называў. Ідэя гэтага новага рознымі каналамі праходзіла ў народ: праз партыю, праз школьныя ўлады, праз гміну, праз павет. Прасачалася яна і знаходзіла людзей, якія яе падтрымлівалі.

Зрабіў гэты актыў ёлку ў Доме лесніка, першую ў вызваленай Гайнаўцы ў 1944 годзе. Зрабілі ёлку для польскіх і савецкіх салдат. Супольны стол быў «багата» накрыты. Школьнікі падрыхтавалі савецкім салдатам падарункі: хустачкі, шкарпэткі, шалікі, хто што мог зрабіць ці недзе здабыць. Пекар Кульпанcоўскі прынёс на супольны стол хлеб з лепшай мукі, бацькі недзе павытрасалі пшанічную муку на пернікі. «Мы доўга чакалі на запрошаную дэлегацыю савецкіх войскаў, — успамінае Марыя Кульчынская, — нават баяліся, каб што не сталася па дарозе, бо ведалі, што дарогі небяспечныя. Прыехалі яны ўрэшце, але доўга не былі».

Пані Марыя памятае многа прозвішчаў, часта толькі прозвішчаў людзей, сваіх сяброў: Чэслава Малесу, Аляксея Зіна, Яна Філіпчука, Гжэськевіча, Крысько, сям'ю Бахоўскіх, Васіля Літвінчыка, Тадэвуша Яжэндскага, Тадэвуша Бергера, Юлія Айжаноўскага, Паўла Шэхалевіча, Аляксандра Касіцкага, Міхала Баравіка — тагдышняга войта ў Гайнаўцы.

Новае радзілася ў змаганні і нялёгка. Не адразу пераконваўся чалавек. А яшчэ ж не было арганізацыі ТППР — ваяводская паўстала ў 1945 годзе. Але ў Гайнаўцы ўсё часцей з уласнай ініцыятывы адбываліся па заводах сярод рабочых даклады і гутаркі, на якіх гаварылася пра дапамогу СССР, пра новыя кантакты.

Па школах і класах паявіліся чырвоныя куткі, якія рэдагавалі сценныя газеты, дзе расказвалі выразкамі з газет пра знішчэнні і ў Польшчы і ў СССР, пра перамогу на фронце, пра супольныя баі.

Так памалу ў Гайнаўцы вырастала новае грамадскае жыццё і новага складу людзі.

(вл)

# Час ашчаднасці

Штогадовы месяц ашчаднасці адбываецца. Цяперашнія ўклады ў ПКО насельніцтва цэлай Польшчы перавысілі восемдзесят шэсць мільярдаў злотых.

У канцы верасня ўклады ў ПКО насельніцтва Беластоцкага ваяводства склалі суму аднаго мільярда 949 мільёнаў зл. У канцы года будзе звыш дзвюх мільярдаў. Сто восемдзесят восем мільёнаў злотых дапісана да кніжачак ПКО ў якасьці працэнтаў. У гэтым годзе вылясавана на аўтамабілевыя кніжачкі 46 легкавых машын.

ПКО, пачынаючы ад новага года, пераймае некаторыя прэрагатывы Інвестыцыйнага банка: кіраванне ОРС-ам, прызнаванне пазык на будаўніцтва паасобным людзям, і інш. Крэдытацыя ПКО адбывалася ўжо ў мінулым годзе і перавысіла суму аднаго мільярда 185 мільёнаў злотых за цэлы год на патрэбы прыватных (індывідуальных) гаспадарак.

Найбольш слабы рух ашчаднасці ў Дуброўскім павеце, дзе ўклад людзей на кніжачкі ПКО ў дзесяць разоў меншыя агульнай сумаю ў параўнанні з Граеўскім паветам, які па даходу на душу насельніцтва перавышае Дуброўшчыну ўсяго ўдвая. (ся)

### ВОДГУКІ ПЛЕНУМА КП ПАРП У ГАЙНАЎЦЫ

# БОЛЬШАЕ ЗАЦІКАЎЛЕННЕ МОЛАДДЗЮ

Ва ўсёй прапагандысцка-выхаваўчай працы партыі ў павеце здабывае сабе права грамадзянства правіла, што штодзённа ідэйна-выхаваўчыя заданні трэба цесна вязаць з канкрэтнымі гаспадарчымі, арганізацыйнымі, грамадскімі заданнямі, са шматлікімі заданнямі, з якіх складаецца будаўніцтва сацыялізма ў горадзе і на вёсцы. Гэтае рацыянальнае практычнае правіла, якое вядзе да так неабходнага спалучэння ідэйна-выхаваўчай працы з бягучымі праблемамі прадпрыемства, вёскі, школы і ўстановы, з'яўляецца аднак прычынай частай затраты з поля зроку з'яў і праблемаў больш агульных, якія выступаюць ва ўсім асяроддзі або ва ўсім грамадстве, а якія патрабуюць уліку ў штодзённай нашай дзейнасці.

Небяспека такога завужвання гарызонтаў і зводжвання выхаваўчай дзейнасці да развязвання неадкладных канкрэтных заданняў з'яўляецца асабліва грозным у вобласці ідэйнага выхавання моладзі.

Вельмі часта здараецца ў нашай практыцы, што справы моладзі, якія ўсё часцей з'яўляюцца на парадку дня пасяджэнняў, экзекутыў і пленарных сходаў партыйных камітэтаў, зводзяцца да ацэнкі працы маладзёжных арганізацый, праблем уступання моладзі ў партыю, удзелу моладзі ў спаборніцтвах працы, здабывання спецыялізацыі, часамі яшчэ закранаюцца справы працы. Абмінаюцца галоўныя справы, такія як: акружаючая яе грамадская атмасфера, адносіны да яе старэйшых, адносіны да ўсялякіх імкненняў, амбіцый, ініцыятыў маладых людзей і ўрэшце ацэнка ўсялякіх пунктаў погляду моладзі, крыніцы пазітыўных і адмоўных з'яў сярод моладзі, вынікі прымяняемых метадаў і спосабаў уздзеяння і г.д. Характарыстычным бывае тое, што падставай да разгледжання спраў моладзі з'яўляюцца вельмі часта адзіныя справаздачы і матэрыялы апрацаваныя з гэтай мэтай для партыйнай інстанцыі кіраўніцтвам мясцовых маладзёжных арганізацый.

Вельмі важным элементам падрыхтоўкі да пленума было многа сустрэч і дыскусій членаў экзекутывы КП з прадстаўнікамі паасобных асяроддзяў моладзі — з маладымі рабочымі, інжынерамі і тэхнікамі, з маладымі сялянамі і аграномамі, з маладымі настаўнікамі і г.д. Дазволіла гэта кіраўніцтву КП пазнаёміцца беспасрэдна з праблемамі і цяжкасцямі хвалюючымі моладзь, з поглядамі моладзі на галоўныя праблемы.

Гайнаўскі пленум (30.IX.69 г.) узняў амбітнае заданне зрабіць агульную ацэнку стаўлення сучаснай моладзі. Узняццё такога задання пленумам КП заслугоўвае на асаблівую ўвагу хаця б з дзвюх прычын. Па-першае, абазначае гэта прыняццё вельмі слушнай прадпасылкі, што генеральная ацэнка ідэйна-выхаваўчай сітуацыі сярод моладзі партыяй, сфармуляваная на XIII Пленуме ЦК і паглыбленая ў многіх выступленнях кіраўніцтва партыі, не звальняе тэрэновых інстанцый ад самастойнага аналізу тых праблем на сваёй тэрыторыі, ад паглыблення і ўзбагачэння выхаваўчай праблематыкі. Асабліва, калі жыццё не стаіць на месцы, нараджае ўсё новыя з'явы патрабуючыя ацэнак і прапаноў, а апрача таго кожная тэрыторыя — павет, горад, грамада — мае сваю спецыфіку, свае канкрэтныя грамадскія, палітычныя, эканамічныя ўмовы, якія акрэсліваюць мясцовыя патрэбы і выхаваўчыя заданні. Па-другое, як мы ўжо ўспомнілі, толькі на шырокім фоне ацэнкі імкненняў і стаўлення моладзі можна дакладна акрэсліць галоўныя напрамкі і заданні выхаваўчай дзейнасці.

Ацэнка стаўлення і імкненняў гайнайскай моладзі абшырна прадстаўлена ва ўступным слове і шырока закранаўлася некаторымі дыскутантамі, галоўным чынам з рабочага і школьнага асяроддзя, пацвердзіла дамінаванне ў маладым пакаленні цэнных вартасцей — энтузіязму і амбіцыі, імкнення да навукі, вязання сваіх жыццёвых планаў з развіццём краіны, ахвотнага ангажыравання да выконвання цяжкіх заданняў. Падкрэслена таксама поўныя спецыфічныя рысы маладога пакалення — імкненне да сучаснасці, якое заключаецца ў тварэнні свайго стылю,



 

 

# ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ ТЫНЕВІЧЫ

Вялікя Тыневічы сапраўды вялікія, і Малыя — малыя. Вялікія Тыневічы большыя ад Малых больш-менш у два разы. Паміж Вялікімі і Малымі Тыневічамі існавалі калісьці так званыя антаганізмы. Людзі спрачаліся паміж сабою, а моладзь нават білася на забавах ды вяселлях. А прычын да спрэчак было мноства.

Бо Малыя і Вялікія Тыневічы былі даволі дзіўнымі вёскамі. Абедзве вёскі мелі разам зямлю, а зямля была ў цераспалосіцы. Сяляне гаспадаруючы ў цераспалосіцы маюць шмат супольных спраў — штогод трэба на агульных сходах узгадняць шмат гаспадарчых праблем. Сходы такія адбываліся ў Вялікіх Тыневічах, а прыходзілі на іх сяляне з абедзвюх вёсак. Узнікалі сваркі і непаразумленні.

Непаразумленні ўзраслі, калі ў 1963 годзе пачалася ліквідацыя цераспалосіцы. Разыходзілася аб падзел вясковых супольнасцей, якімі з'яўляюцца шырокія тынявіцкія балоты. Балоты гэтыя былі калісьці слаба выкарыстанымі. Нельга было праз іх, як кажуць, ні прайсці, ні праехаць. Сена выносілася на плячах на адлегласць кіламетра, а то і больш. Сенажаці працягваліся 2 тыдні, а пры непагодзе нават і даўжэй. У 1959 годзе праведзена на іх меліярацыю, і ўсё сталася інакш.

— Цяпер усё інакш, — расказвае солтыс Вялікіх Тыневічаў Сцяпан Леўчук. — Сенажаці працягваюцца не даўжэй трох дзён. Усё машынамі: машына скосіць, пераверне сена і заграбе.

Не гледзячы на непаразумленні, цераспалосіца ў Тыневічах ліквідавалася і сяляне пачалі гаспадарыць больш пасучаснаму. Заснавана сельскагаспадарчы гурток. Вёскі забяспечыліся ў трактары і мноства іншых сельскагаспадарчых машын

Сядзім тады з солтысам Вялікіх Тыневічаў у яго хаце і гутарым аб вясковым жыцці-быцці, аб вясковых радасцях і клопатах.

— Найбольшы наш клопат, — гаворыць солтыс, — гэта школа. Не маем школьнага будынка. Будынак, у якім месціцца школа, пабудаваны быў даўным-даўно — яшчэ ў царскія часы. Памятаю яшчэ дзед мой пакойны расказваў аб тым, як у сваёй маладосці з суседзямі ездзіў у лес па дрэва на гэтую школу. І ад таго часу аж па сённяшні дзень школа служыць тынявіцкай дзетварні.

Зразумела, што служыць яна гэтай дзетварні ўсё горш. Праўда, пабудова школы была запланавана на 1970 год, але зараз план перасунута аж на 1975 год. А дзяцей у тынявіцкай школе многа — з некалькіх вёсак. Адсутнасць добрага школьнага будынка адбіваецца таксама адмоўна на культурным жыцці Вялікіх Тыневічаў. Моладзі проста няма дзе тут збірацца для нейкай культурнай дзейнасці.

Клопаты клопатамі, а жыццё ў Тыневічах, як і ўсюды на свеце — ідзе наперад. У Малых Тыневічах адкрыта клуб «Руху». Пачала сюды тлумна сыходзіцца моладзь. Але не толькі з Малых Тыневічаў. Вечарам, асабліва зімою, поўна тут моладзі з Вялікіх Тыневічаў, а нават з іншых суседніх вёсак. Аб старых міжвясковых непаразуменнях і маладзёжных бойках ніхто сёння не памятае, хіба што трэба гэта прыпомніць журналісту, які хоча ведаць, як было калісьці, а як ёсць зараз.

**У. Паўлючук**

# ПРЫКЛАД ІНШЫМ

Моладзь Міхалоўскага ліцэя пабудавала чатыры кіламетры дарогі ў Залессе, наладзіла батанічны агарод, задумала насыпаць курган у гонар загінуўшых савецкіх салдат у апошнюю вайну, паставіць скромны але шчыры помнік ім. Нязменным ініцыятарам пачынаў з'яўляецца школьная арганізацыя ЗМС, якая налічвае 79 членаў; яе апякун Веслаў Марціняк, сардэчны настаўнік і выхаваўца.

Па ініцыятыве школьнага праўлення ЗМС арганізавана класныя тройкі дапамогі слабейшым вучням.

Новая ідэя — гэта групы сацыялістычнага выхавання, прыблізна, па ўзору брыгад сацыялістычнай працы. Крытэрыі дзейнасці груп яшчэ выпрацоўваюцца.

ЗМС-аўскі актыў Міхалоўскага ліцэя дасканалы: Людміла Налівайка, Зося Здановіч, Вера Говец, Мікалай Грыка, Ірэна Серада і іншыя. Старшынёй школьнага праўлення ЗМС з'яўляецца Оля Кардаш.

Дарэчы зазначыць, што арганізацыя гэта належыць да ліку найлепшых у ваяводстве, займае другое месца па эфектах дзейнасці. (ся)

нанканфармізм і ўражлівасць на згоднасць прапаведваючых лозунгаў з дзеяннем, зацікаўленне этычна-маральнымі праблемамі, шуканне сэнсу жыцця і ідэалаў. Указваючы на адмоўныя з'явы ў паводзінах моладзі, такія як: пагоня часткі моладзі за жыццёвай лёгкасцю, эгаізм, адсутнасць абавязковасці і г.д., звярталі ўвагу, што вельмі часта гэта вынік дэмаралізуючага ўплыву прыкладу старэйшых або нават атмасферы пануючай ва ўстанове, у вёсцы, у прадпрыемстве. Звернута таксама ўвагу, што наглядаемы ў моладзі цынізм бывае часта толькі вонкавай самаабароннай позай народжанай з боязі перад прыняццём сур'ёзна правілаў, якія не знаходзяць потым магчымасці ажыццяўлення.

З так складанай ідэйна-выхаваўчай праблематыкі выплывае відавочная прапанова — якая была пуцяводнай думкай пленума — што цэнтральнай праблемай выхаваўчай працы партыі сярод моладзі з'яўляецца тварэнне і кіраванне шырокім фронтам выхавання, якога галоўнай апорай ёсць маладзёжныя арганізацыі, але адказнасць перш за ўсё мае ўся партыя, партыйныя інстанцыі і арганізацыі, увесь актыў.

**Канстанцін Ляшчынскі**

# АНКЕТА

Няма ўжо хіба на Беласточчыне такой вёскі, дзе не ведалі б нашага эстраднага калектыву «Лявоніха». Розныя аб ім склаліся думкі. Адны гавораць, што «Лявоніха» адстае ад жыцця і патрабуе мадэрнізацыі (напрыклад, выказваліся прапановы стварыць з яе беларускае «No to co»), іншыя кажуць, што павінна яна заставацца такой, якой ёсць цяпер.

Каб ведаць шырэйшую апінію, ГП БГКТ аб'яўляе анкету п.з.

**Што вы думаеце пра «Лявоніху»?**

Гэта анкета павінна памагчы выбраць найбольш правільны напрамак для нашага заслужанага калектыву і дапамагчы яму зрабіць яшчэ большую вядомасць.

Прачытайце тады ўважна пытанні і дашліце на іх свой адказ. Сярод удзельнікаў анкеты будуць разлясаваны кніжныя і іншыя ўзнагароды.

— Як вы ацэньваеце дагэтуляшні напрамак «Лявоніхі?»

.............................................................

— Ці «Лявоніха» павінна быць такой, якой ёсць? . . . .

.............................................................

— Чаму? . . . . . . .

— Ці «Лявоніху» трэба накіраваць у іншым напрамку? . .

.............................................................

— У якім? . . . . . . .

.............................................................

— Чаму? . . . . . .

.............................................................

— Колькі вам год? . . .

— Ваш адрас: . . . .

.............................................................

Калі палічыце патрэбным, можаце не абмяжоўвацца да вышэй змешчаных пытанняў і даць шырэйшы адказ.

Адказы трэба дасылаць у ГП БГКТ да 15 лістапада г.г. На канверце зрабіце дапісак «Анкета». Поўны адрас ГП БГКТ: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Białystok, ul. Warszawska 11.




## АПОВЕСЦЬ ПРА РАЙСК



Вёска Райск у Бельскім павеце. Хто ж не чуў пра яе. Яна быццам па іроніі называецца Райскам. Бязлітасны лёс і суровая гісторыя выбралі яе сярод тысяч іншых вёсак, каб сталася сапраўдным жывым сімвалам усяго гэтага, што тварылася на нашай роднай Беласточчыне на працягу апошняга паўстагоддзя — сімвалам галоднай і халоднай бяды, незаслужанай і яўнай крыўды, адчаяннага і геройскага змагання.

Усё гэта аж прасілася пад пяро таленавітага пісьменніка. Верыў я, што калісьці змагу прачытаць аповесць пра Райск, што гэтая аповесць пазнаёміць у будучыні маіх дзяцей з перыядам панскага прыгнёту і гітлераўскай акупацыі, са змаганнямі за новае шчаслівейшае жыццё.

І вось ёсць аповесць пра Райск! Выйшла яна пад загалоўкам **«Топтаная зямля».**[1]) Добры, трапны загаловак, бо хто ж не таптаў нашай роднай зямлі між Бугам а Нарвай! Аўтарам гэтай аповесці з'яўляецца варшаўская пісьменніца **Мар'я Шулецкая.**

Дзе Варшава, а дзе Райск! Часта розныя людзі пыталі Мар'ю Шулецкую, чаму яна, варшавянка, піша пра Беласточчыну. Яе адказ знаходзім у кніжцы. «Беласточчына, — піша яна, — мая любоў «з першага погляду». Летам 1956 года ехала я збіраць матэрыял для рэпартажа пра вёску Райск, што знаходзіцца ў Бельскім павеце. Думала спачатку, што будзе гэта адна з чарговых журналісцкіх камандзіровак. Аднак ужо ў дарозе захапіла мяне сумная прыгажосць гэтай зямлі і яе незвычайна сардэчныя і добразычлівыя людзі».

Гэтыя людзі расказалі пісьменніцы патрасаючую гісторыю Райска. Марыя Шулецкая вярнулася ў Варшаву. Працавала тады журналістам тыднёвіка «Спулдзельня прадукцыйна». Журналіст хутка забывае пра тое, што ўжо зроблена. Пра Райск Мар'я Шулецкая не забыла. Ведала, што адным рэпартажам не адчэпіцца ад райскай гісторыі. Ды прыехала ў Райск паўторна, а пасля яшчэ і яшчэ... Цэлымі тыднямі вандравала па Райску, Храбалах, Плюцічах і Дзяніскаx. Прыслухоўвалася мясцовай гаворцы, назірала звычаі, прымала ўдзел у вяселлях і хрысцінах, пазнавала жыццё ад падшэўкі. Хутка заваявала агульную прыхільнасць. Урэшце пачалі яе, скажам у Дзяніскаx, называць «нашай варшавянкай» («О, наша варшавянка зноў прыехала!»).

Гэтая праца аказалася плённай, як праца гаспадара, які не шкадуе сваіх сіл, каб толькі яго збожжа вырасла «ў аглоблю». Відаць гэта, калі чытаецца аповесць «Топтаная зямля». Аж здзіўляе нас, што выраслі на гэтай зямлі, яе глыбокае, грунтоўнае і ўсебаковае знаёмства не толькі самых розных абрадавых і бытавых дробязей, але таксама правідловае разуменне грамадскіх, нацыянальных і класавых канфліктаў, якіх гісторыя не шкадавала для нашай Беласточчыны. І таму кніжка Мар'і Шулецкай гэта не кірмашовы ландшафцік. Яна глыбока сягае ў глебу нашай зямлі, смела адлюстроўвае самыя складаныя канфлікты. **Яе героямі з'яўляюцца беларусы, палякі, рускія, яўрэі і немцы**. Нацыянальнасць нікому не дае выключнай прывілегіі на тое, каб быць добрым ці дрэнным. Гэта асноўны дэвіз аўтара «Топтанай зямлі». Сярод прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей знаходзім людзей, якія змагаюцца за агульную высакародную справу, але і беларусы, і палякі, і рускія бываюць таксама здраднікамі, або сваёй пасіўнасцю спрыяюць ворагу.

Дзеі аповесці ў асноўным змяшчаюцца ў межах часу: восень 1939 — вясна 1943. І толькі шляхам успамінаў пасобных герояў або шляхам адаўтарскіх паясненняў гэтыя рамкі часу шмат расшыраюцца. Часта вяртаемся ў мінулае Райскага навакольля. Знаёмімся, для прыкладу, са славутай райскай падаткавай забастоўкай, якая адбылася там у 1934 годзе.

Аднак назву вёскі Райск і многіх іншых суседніх вёсак дарэмна шукаць на старонках аповесці. Яе дзеі адбываюцца ў асноўным у прыдуманай вёсцы Равіскі. Пісьменніца змяніла назвы вёсак і таксама пазмяняла прозвішчы многіх сваіх герояў. Гэта зразумела. «Топтаная зямля» — аповесць не толькі пра Райск. Мар'я Шулецкая паставіла сабе больш адказнае заданне: яна рашыла напісаць аповесць пра жыццё і змаганне, пра цяжкі, працавіты лёс людзей, якім давялося жыць у паўднёва-ўсходніх раёнах Беласточчыны. Райская гісторыя даставіла ёй толькі літаратурнай сыравіны, сталася сімвалам. «Топтаная зямля» з'яўляецца тады першай кніжкай, якая па-сапраўднаму адлюстроўвае наша мінулае, дае складаны вобраз штодзённасці гэтага мінулага. Чытанне гэтай аповесці канчаецца пачуццём жалю, што няма яе працягу. Вёска Райск хутка ж адрадзілася. Яе адраджэнне таксама сталася сімвалам пасляваенных перамен.

**Віктар Рудчык**

[1]) Maria Szulecka, «Ziemia deptana», s. 374, Wydawnictwo Lubelskie, lipiec 1969r., nakład — 8.000 egz., cena 25 zł.

Пачатак на стар. 1

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ НА ДУБРОЎШЧЫНЕ

будавана на Дуброўшчыне толькі 250 будынкаў, а гэта аднак мала.

Парода быдла, быдла высокамалочнага і высокамяснога, таксама мае вялікае значэнне. І тут таксама спатыкаемся з неахвотаю сялян пакупкі прапанаваных сельскагаспадарчымі ўладамі цёлак. Кажуць сяляне, што яны задарагія і таму ёсць цяжкасці з іх распаўсюджваннем.

Як бачым, ёсць многа спраў, многа праблем, якія абумоўліваюць больш хуткі рост пагалоўя быдла на Дуброўшчыне.

**М. Хмялеўскі**



**На выгане ў Новым Востраве, што на Сакольшчыне.**

**Фота Цаф — Сянько**

# ГАСПАДАР НА V І VI КЛАСАХ

У Рыгора Барана з Волькі Нурэцкай каля адзінаццаці гектараў ворнай зямлі пятага і шостага класаў. Незайздросная зямля. Гэты гаспадар мае яшчэ каля чатырох з паловаю гектараў сенажаці.

У яго пяць кароў і дзве ялоўкі. Чатырнаццаць свіней. Сёлетні сярэдні ўраджай збожжа ў Рыгора Барана дзевятнаццаць—дваццаць цэнтнераў з аднаго гектара. Бульбы — каля трохсот цэнтнераў. Гаспадар любіць зямлю і клапоціцца аб яе — і яна не застаецца яму ў даўгу. (ся)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПРАПАГАНДА КНІЖКІ

У пачатку кастрычніка адкрыта новы культурна-асветны 1969/70 год. У сувязі з гэтым у цэлай краіне адбыліся культурныя мерапрыемствы ў клубах «Руху», клубах селяніна, святліцах.

Не без рацыі варта напісаць аб працы клубаў.

На Гайнаўшчыне добра працуюць клубы ў Старым Беразове, Нараўцы, Белавежы, Арэшкаве і г.д.

Бяруць яны ўдзел у конкурсе на найлепшы клуб.

Клубы развіваюць сваю дзейнасць планава і ў меру сваіх магчымасцей. Я хачу звярнуць увагу кіраўнікоў клубаў на адзін факт. На кніжкі. Усе мы ведаем, што ў клубах можна купіць кніжку. Ведаем, што яны там ёсць. Часам убачылі іх у вітрыне, часам пад лядай. З продажам іх аднак не найлепш. Там, дзе ў клубах прадаецца многа кніжак, пытаць аб іх не трэба. Там кніжкі ў вітрыне, там убачым акуратна дабраны планшы рухомых кароткіх рэцэнзій многіх выдавецкіх навінак. Там арганізуюцца вечарыны з кніжкай, літаратурныя «згадуй-згадулі» і г.д. У такіх клубах няма клопату з продажам кніжак. Такіх клубаў, у якіх кніжка здабыла сабе належную пашану, не трэба заахвочваць да яе рэкламы і продажу.

Усе ведаем, што кніжка не для ўсіх пакупнікаў з'яўляецца артыкулам першай патрэбы, калі яе не бачаць, то не запытаюць. Кніжку трэба ў клубе паказаць, часамі неабходна намаляваць некалькі рэкламных афішаў, або арганізаваць пару мерапрыемстваў прапагуючых чытальніцтва. Тады і на вынікі не трэба будзе доўга чакаць.

**Янка Цялушэцкі**
**Новае Ляўкова**

## МАШЫНА-ТРАКТАРНАЯ БАЗА

На Гайнаўшчыне працуе зараз сем міжгуртковых машына-трактарных баз. Да перадавой адносіцца машына-трактарная база ў Курашаве ў грамадзе Чыжы. Чысты даход выпрацаваны за мінулы сельскагаспадарчы год складае суму 123 тыс. зл. Працуе там 19 чалавек. База мае 13 трактараў з поўнымі камплектамі машын. У гэтым годзе пры дапамозе спецыяльных машын «разжутнікаў» рассеяна трактарамі на сялянскіх «кіслых» палях 158 тон палявой вапны. На 150 та праведзена хімічную ліквідацыю пустазелля. Сяляне з услугаў міжгуртковай машына-трактарнай базы задаволены. Да верасня гэтага года на адзін трактар выпадала па 850 гадзін працы.

Варта падкрэсліць і той факт, што на машына-трактарнай базе ўсе працаўнікі маюць нядрэнную сельскагаспадарчую падрыхтоўку. Дыспазітар Антон Васілюк, бухгалтар Васіль Нікалаюк з'яўляюцца ініцыятарамі многіх пачынанняў у сваёй вёсцы і маюць уплыў на сельскагаспадарчую вытворчасць.

**Н. Вітас**
**Курашава**

## НА ДВУХ ГАЗАХ

Трактарыста Міхася Мазурука з Градалёў, што ў Бельскім павеце, часта можна спаткаць едучага на двух «газах». Гэта значыць: на газе трактара і газе гарэлачным, спажытым ім самім. На двух «газах» ездзіць і другі трактарыст Павел Зялінка. Яму забралі нават права язды. Вёў ён аднойчы трактар моцна п'яны. Але далей ён не зважаючы ні на што ездзіць і смела возіць банькі з малаком у бельскую малачарню. Пра трактарыста Міхася Мазурука кажуць і тое, што ён трактарам часта працуе на сваёй гаспадарцы, але гэтага ніколі не ўпісвае ў карту. А гэта ўжо парушэнне законнасці. Ёсць добрая народная пагаворка «Да часу збан ваду носіць».

**Я. Люсік**
**Градалі**




Дарагое Сэрцайка!

Мы нядаўна пазнаёміліся з Віцем. Ён малады, прыстойны хлапец. Мне 18 год. Віця мне спадабаўся і то вельмі. Баюся толькі, ці ён не пакіне мяне для іншай. Бо гэтак было дагэтуль. Віця ў нашай вёсцы меў дзве нарачоныя, я ўжо трэцяя. Штопраўда, да тамтых ужо даўно не ходзіць, увотуле не знаецца. Але пасля гэтага выпадку, што здарыўся нядаўна, невядома што будзе далей. Віця ў нядзелю прыехаў да мяне, але мяне не застаў. Я паехала да цёткі ў горад. А ён хацеў завесці мяне на забаву ў яго вёску (суседнюю). Калі мяне не застаў, забраў з сабой маю сяброўку і паехаў. Нават, як казалі, завёз яе да сваёй хаты, да маці, там яна і начавала, а на другі дзень прывёз дамоў. Аднак да мяне ўжо не зайшоў, пэўна саромеўся. Чакаю, мо прыедзе ў наступную нядзелю. Але калі не прыедзе, што мне тады рабіць? Ці надалей чакаць, ці напісаць да яго, ці мо паехаць? Парай, Сэрцайка, буду за гэта вельмі ўдзячна. Толькі пастарайся хутчэй.

**Зіна з Бельскага пав.**

**Зіна!** На маю думку — ні пісаць, ні ехаць, а нават — не чакаць. Віця, відаць, хлопец не вельмі разважны, як паказваюць яго паводзіны. Ты — дзяўчына маладая, і мне здаецца, няма патрэбы заварочваць сабе галавы такім «недарослым» яшчэ хлопцам. А спяшацца няма патрэбы. А каб хутчэй забыць пра Віцю, займіся працай у хаце, часцей пайдзі ў святліцу, будзь з моладдзю.

**Сэрцайка**

## ЗМВ І ПР

Аб добрай працы гурткоў ЗМВ (Саюза вясковай моладзі) і калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі многа гаворыцца на Гайнаўшчыне. Бяруць яны масава ўдзел у грамадскіх чынах, з'яўляюцца ініцыятарамі многіх пачынанняў на вёсцы. Варта тут успомніць удзельнікаў доследных палеткаў. Асягнутыя добрыя вынікі ў вырошчванні тых ці іншых культур заахвочваюць сялян да выкарыстоўвання адпаведнай колькасці мінеральных угнаенняў, а таксама да сяння кваліфікаваным насеннем. Гэтаксама ёсць і з жывёлагадоўчымі конкурсамі. Яны таксама маюць прапагуючы ўплыў на сялян. На Гайнаўшчыне праводзяцца раённыя алімпіяды сельскагаспадарчых ведаў з адначасовым паказам асягненняў у развіцці жывёлагадоўлі. Такая алімпіяда адбылася нядаўна ў Новым Беразове. У агульнай пунктацыі пераможцам аказаўся мясцовы новаберазоўскі калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі на чале з Віктарам Аўласюкам. Члены гэтага калектыву выказаліся добрай знаёмасцю тэарэтычных і практычных ведаў. Да свайго роду «згадуй-згадулі» прыступілі таксама члены ЗМВ-у.

**Тэкст і фота**
**Віталіс Назарук**
**Гайнаўка**



**Члены ЗМВ і калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі з Новага Беразова.**

## ЦУКРОВЫЯ БУРАКІ

Цукровыя буракі прыносяць вялікія даходы гаспадарам. У Старым Беразове калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі першай ступені ўключыўся ў спаборніцтва вырошчвання цукровых буракоў. Ураджай буракоў добры.

**В. Назар**
**Старое Беразова**

## МІНЕРАЛЬНЫЯ ЎГНАЕННІ

Пачынаючы ад гэтага года нашыя ўлады моцна націскаюць на сялян адносна выкупкі ўсіх мінеральных угнаенняў прадбачаных на кожную гаспадарку. У сувязі з гэтым існуюць планы ў кожнай грамадзе для кожнай вёскі і для кожнага гаспадара, колькі ён забавязаны выкупіць угнаенняў. Ад 1 ліпеня па 15 верасня ўсе ГРН складалі паведамленні адносна рэалізацыі прымусовай пакупкі ўгнаенняў. І так, ГРН Стары Корнін у Гайнаўскім павеце выканала на 115 працэнтаў. А гэта ўжо поўнасцю гарантуе на наступны год лепшы ўраджай жыта.

(мх)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Czas rozłąki" (radz.), 28—29. X. „O moim przyjacielu" (radz.), 30—31. X. „Miłość powraca wiosną" (radz.), 1—2. XI.

**Дубіны**
„Cierpkie wino" (radz.), „Siedem nianiek" (radz.), 1—2. XI.

**Нараўка**
„Człowiek z przeszłością" (radziecki), „Skrzydła października" (radz.), 29. X. — 2. XI.

**Нарва**
„Ńiewysłany list" (radz.), „Tata, mama, córka i zięć" (radz.), 29. X. — 2. XI.

**Чыжы**
„Po latach" (radz.), „Ach ci młodzi" (radz.), 29. X. — 2. XI.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ludzie i bestie" (radz.), I i II s. 29. X. — 2. XI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Браньск**
„Sąd" (radz.), 28—29. X. „Pomyłka szpiega" (radz.), 30—31. X. „Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 1—2. XI.

**Боцькі**
„Zmartwychwstanie" (radz.), 29. X. — 2. XI.

**Орля**
„Tata, mama, córka i zięć" (radziecki), „Ulica Nadmorska" (radziecki), 29. X. — 2. XI.

**Райск**
„Siedem nianiek" (radz.), „Przygody Krosza" (radz.), 29.X. — 2.XI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Zmartwychwstanie" (radziecki), 25—30. X.

**Міхалова**
„Twój współczesny Październik" (radz.), „Martwe dusze" (radz.), 29. X. — 2. XI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Kołysanka" (radz.), 28—29. X. „Szósty lipca" (radz.), 30—31. X. „Miłość należy cenić" (radz.), 1—2. XI.

**Янаў**
„Nieprzyjaciel u progu" (radz.), dnia 1—2.XI.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Skok o świcie" (radz.), 28—29.X. „Kochałem cię" (radz.), 30—31. X. „Październik — 10 dni, które wstrząsnęły światem" (radziecki), 1—2. X.

**Мельнік**
„Dom na rozstajach" (radz.), 28—29. X. „Tylko jedno życie" radziecki), 30—31. X. „Miłośc należy cenić" (radz.), 1—2. XI.

**Мілейчыцы**
„Był sobie dziad i baba" (radz.), „Kronika jednego dnia" (radz.), 29. X. — 2. XI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Zwykła historia" (radz.), „Kołysanka" (radz.), 29. X. — 2. XI.

**Новы Двор**
„Trudne godziny" (radz.), „Gdy umilkły działa" (radz.), 1—2. XI.

---

На допыце Карл сказаў, што служыў у арміі шэсць гадоў, ваяваў у Расіі і там адмарозіў ногі. Доўга ляжаў у шпіталі, а цяпер пусцілі далечвацца дадому. Вяртаўся ад нявесты, калі яго затрымалі.

— Тут зусім побач мая хата, — гаварыў ён. — Пусціце мяне, ужо зусім позна — дома будуць хвалявацца.

— Што вы чулі пра савецкіх парашутыстаў? — пераклаў я пытанне Крылатых на нямецкую мову.

— О, вядома, усё. Іх ловяць сёння ў гэтым лесе ўвесь дзень. Наехала многа салдат, паліцыі, жандармерыі. Нават — юнкеры...

— Ну і як — пералавілі?

— Не ведаю. Напэўна, не, бо ўсе войскі засталіся ў лесе. Заўтра зноў будзе аблава. Вакол патрулі, засады.

— Як завецца ваша вёска?

— Аўэрсвальд.

Крылатых разгарнуў карту.

— Накрый мяне плашч-палаткай, — папрасіў ён Шпакава.

Калі яго накрылі, ён пасвяціў кішэнным ліхтаром і знайшоў на карце вёску Аўэрсвальд. Зрабіўшы адметку чырвоным алоўкам у гэтым месцы і каля вёскі Эльхталь, дзе мы павінны былі прызямліцца, капітан Крылатых вызначыў, што штурман памыліўся на шэсць кіламетраў. Толькі цяпер, разглядаючы карту, камандзір зразумеў, чаму яго групе так пашанцавала, што яна засталася ззаду карнікаў, якія пайшлі на аблаву. Тым, хто кіраваў аблавай і ў галаву не магло прыйсці, што савецкія парашутысты хаваюцца ў гэтым мізэрным лапічку лесу, адрэзаным ад вялізнага ляснога масіву шырокай магістраллю Кенігсберг — Цільзіт. Ды калі б мы самі ведалі, што гэта за месца, мы ніколі не засталіся б тут. Нас жа маглі акружыць дваццаць-трыццаць чалавек. Але здарылася так, што якраз гэта нас і выратавала.

На ўсход ад вёскі Аўэрсвальд тонкай блакітнай жылкай вілася паміж хутароў рэчка Парве. Капітан вырашыў, што трэба пераправіцца цераз яе і выйсці ў свой зададзены аперацыйны раён.

— Спытай, што яму вядома пра размяшчэнне воінскіх гарнізонаў, пра абаронныя ўмацаванні. Ён жа — ваенны, павінен ведаць сёе-тое.

Я пераклаў. Немец адказаў, што ён нічога не ведае, але крыху пачакаўшы, дадаў:

— Ёсць войскі ў вялікіх гарадах: у Кенігсбергу, Цільзіце, Інстэрбургу, Гольдапе...

На той жа самай дарозе ўздоўж лесу, па якой праехалі паліцэйскія, зноў пачуліся галасы патрульных.

— Тут рускі дэсант! Дапама...! — нечалавечым голасам закрычаў палонны, але не паспеў дагаварыць і бязгучна асунуўся на зямлю.

Мы залеглі, падрыхтаваліся адбіць напад. Патруль і на гэты раз пабаяўся ісці ў лес. Чуліся толькі крыкі.

— Хто там? Адазвіся!

Калі немцы паехалі далей, мы зноў вярнуліся да таго месца, дзе ўзялі палоннага. Прытаіліся, прыслухаліся. Амаль бясшумна міма нас праехаў веласіпедыст. Зброі пры ім таксама, як у Карла, не відаць было. Праз некалькі хвілін ён вярнуўся назад. Недалёка ад нас спыніўся, пастаяў моўчкі, а потым свіснуў, спадзеючыся, што нехта адгукнецца. Пастаяў яшчэ крыху і стаў зваць:

— Таварышы, таварышы, дзе вы? — не дачакаўшыся адказу, ён паехаў.

— Правакатар! — сказаў Крылатых. — Напэўна, за нашы галовы ўзнагароду аб'явілі — вось і хоча зарабіць.

Крылатых павёў нас па маршруце, які ён вызначыў на карце — да рэчкі Парве.

Над лесам, у тым баку, адкуль мы прыйшлі, адна за другой засвяцілі ракеты.

— Ідуць за намі, — устрывожана заначыў Зварыка. Яму з балючай нагой было цяжэй за ўсіх.

— Яшчэ невядома, можа, для храбрасці шпуляюць, — запярэчыў Генка.

Неўзабаве пачуўся сабачы брэх.

— Пойдзем насустрач, — кіўнуў камандзір у той бок, адкуль чуўся брэх. — На беразе нашы сляды абрываюцца — немцы знойдуць іх і падумаюць, што мы перабраліся на той бок.

Мы прайшлі з паўкіламетра, сабакі брахалі зусім блізка, тады мы крута павярнулі на захад і густа пасыпалі сляды спецыяльным парашком.

(Працяг будзе)



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6620

